**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№12(676)**
**21 сакавіка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by


Яшчэ не канец зіме!

Глыбокае. Краявід на аўтатрасе Полацк-Вільня, побач з кавярняй «Гара». *Фота Кастуся Бахіра.*



## Аграэкатурызм стаў самым паспяховым відам турызму ў Беларусі ў 2012 годзе, мяркуюць у Мінспорту

**Аграэкатурызм стаў самым паспяховым відам турызму ў Беларусі ў 2012 годзе. Такую думку выказала начальнік аддзела маркетынгу і якасці турыстычных паслуг дэпартамента па турызме Міністэрства спорту і турызму Юлія Копаць 18 сакавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яе слоў, усяго летась у Беларусі налічвалася 1.775 сельскіх сядзіб, якія прымалі турыстаў, тады як у 2011 годзе — крыху больш за паўтары тысячы. Але пры гэтым выручка ад паслуг аграэкатурызму павялічылася ў 2 разы, і ў 2012 годзе яна склала 44 млрд., тады як у 2011 годзе — 20 млрд.

«Безумоўна, нейкую ролю адыграў і натуральны рост цэн на паслугі, але адначасова мы мяркуем, што аграэкатурызм развіваецца і апрача асноўных, напрыклад начлег, аказваецца большая колькасць спадарожных паслуг. Турысту стала больш цікава, і ён пакідае больш грошай на сядзібе», — сказала Копаць.

Паводле яе слоў, усяго летась у аграэкасядзібах адпачылі 185 тыс. турыстаў, што на 40% больш у параўнанні з мінулым годам. Большасць наведвальнікаў сядзіб — беларусы. Апрача таго, сядзібы наведвалі іншаземцы з больш чым 50 краін, у тым ліку Расіі, Германіі, ЗША, Аўстраліі, Новай Зеландыі.

Як зазначыла Копаць, летась апрача прыватных асоб у сферы аграэкатурызму працавалі таксама 34 сельскагаспадарчыя арганізацыі. Апрача таго, адзначаецца тэндэнцыя да супрацоўніцтва гаспадароў сядзіб паміж сабой, стварэння гэтак званых «аграэкатурыстычных кластараў». З'явіліся прыклады супрацоўніцтва аграэкасядзіб з рознымі культурнымі і спартыўнымі арганізацыямі.

Як паведаміла начальнік аддзела арганізацыйнай працы, аздараўлення насельніцтва і турызму ўпраўлення фізічнай культуры, спорту і турызму Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Інга Малашкевіч, лідарам па колькасці аграэкасядзіб з'яўляецца Мінская вобласць, у якой зарэгістраваныя 412 суб'ектаў гаспадарання. Большая частка з іх размешчана ў раёнах, якія знаходзяцца недалёка ад сталіцы. Летась аграэкасядзібы Мінскай вобласці прынялі амаль 85 тыс. турыстаў. Іх выручка склала 18 млрд. 662,4 млн. рублёў. У сярэднім па Мінскай вобласці кожным суб'ектам аграэкатурызму ў 2012 годзе зароблены 48,3 млн. рублёў.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***



## На долю Расіі і ЕС прыпадае па 38% беларускага экспарту

**На долю Расіі ў студзені 2013 года прыпадала 38% беларускага экспарту, краін ЕС — 37,8%, сведчаць даныя Нацыянальнага статыстычнага камітэта.**

З агульнага аб'ёму экспарту на долю астатніх краін СНД прыпадала 14,2%, астатніх краін – 10%. Імпарт з Расіі склаў 59,8% агульнага аб'ёму імпарту, астатніх краін СНД – 5,4%, краін ЕС – 19,1%, астатніх дзяржаў – 15,7%.

У студзені зарэгістраваны экспартна-імпартныя аперацыі са 160 краінамі. Тавары пастаўляліся на рынкі 114 дзяржаў, імпартавалася прадукцыя з 143.

Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў студзені з'яўляліся Расія – 49,2% усяго аб'ёму тавараабароту, Нідэрланды – 9,6%, Украіна – 7,7%, Германія – 5,6%, Кітай – 4,9%, Польшча – 2,4%, Італія – 2,3%, Вялікабрытанія – 1,6%, Літва – 1,5%, Латвія – 0,9%.

У агульным аб'ёме экспарту 37,4% склалі нафтапрадукты. У імпарце 37,6% прыпадала на долю сырой нафты, уключаючы газавы кандэнсат (25,5%), і прыроднага газу (12,1%).

***Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.***

## Верхнядзвінскі раён

# Ад класікі да элітных гатункаў

■ Станіслаў Раманчук

**У наш час толькі з якасная, запатрабаванай рознымі рынкамі прадукцыяй вытворцам можна выжыць і развівацца далей.**

У такім накірунку імкнецца працаваць апошнім часам калектыў ААТ “Верхнядзвінскі масласырзавод”. Цяпер каля 70 % ягоных вырабаў адгружаюцца на экспарт, і таму, у адрозненне ад іншых у канцэрне “Мяса-малочныя прадукты”, прадпрыемства адчувае сябе ўпэўнена. На адной з буйнейшых у свеце спецыялізаваных выстаў харчавання і сыравіны для іх вырабу “Прадэкспа-2013” у Маскве завадчане зноў аказаліся на вышыні і прывезлі дамоў некалькі ўзнагарод гэтага конкурсу. Іх галандскі элітны сыр “Эмменталер” 45 % тлустасці атрымаў на выставе залаты медаль. Яшчэ адну ўзнагароду, толькі “бронзавую”, мясцовыя сыраробы заваявалі за класічны падобны швейцарскі сыр “Маасдамер”. На заводзе, дарэчы, пад сваім галоўным памаладзеўшым брэндам “Ян Сыраробʼ” выпускаюць сыры элітнай серыі нават сямі гатункаў, сярод якіх ёсць і адзін айчынны “Старадзвінскі” з вялікімі дзіркамі. На выставе-конкурсе ў Маскве ўся гэта прадукцыя еўрапейскіх сыроў была прызнана лепшай. Дабіцца гэтага дапамагло ўстаноўленае на заводзе навейшае тэхналагічнае абсталяванне і якаснае малако з мясцовых ферм, лепшых па прадуктыўнасці статку на Віцебшчыне. Спецыялісты і тэхнолагі завода пастаянна вучацца, стажыраваліся на прадпрыемствах малочнай галіны Польшчы, Галандыі і Чэхіі.

## Полацкі раён

# Падарунак для будучых мам

■ Кастусь Александровіч

**Да нядаўняга часу ў горадзе Полацку патрабавала карэннай рэканструкцыі радзільнае аддзяленне гарбальніцы, таксама было запланавана нават будаўніцтва новага раддома.**

Аднак потым спецыялісты адмовіліся ад гэтай ідэі і вырашылі стварыць у суседнім Наваполацку замест двух падобных установаў сучасны рэгіянальны перынатальны цэнтр маці і дзіця, разлічаны на прыём у год да 2400 родаў. На рэканструкцыю і пераснашчэнне пяціпавярховага будынка ў горадзе нафтахімікаў пайшло толькі 24 млрд. рублёў. З пастаўленай задачай меней чым за паўгода справіліся будаўнікі будтрэста № 16. Абноўлены межраённы цэнтр акушэрства і гінекалогіі разлічаны таксама на абслугоўванне парадзіх з рознымі паталогіямі і ўскладненнямі з 10 раёнаў вобласці. Тут колькасць бальнічных ложкаў павялічылі ўдвая да 120 месц для будучых мам. Клапаціцца аб іх здароўі і падтрыманні немаўлят стануць амаль 300 медработнікаў, сярод якіх 48 урачоў патрэбных профіляў. Цэнтр забяспечылі па апошняму слову тэхнікі. Для зручнасці парадзіх новы радзільны дом у Наваполацку аснашчаны аўтаномнай сістэмай кандыцыяніравання паветра, камп’ютарнымі маніторамі, якія дазваляюць кантраляваць стан плода і пацыентак. Неўзабаве ў цэнтры запрацуе камп’ютарная сетка сувязі з жаночымі кансультацыямі з рэгіёнаў, каб мець патрэбную аператыўную інфармацыю. Для абуладкавання радзільных залаў, аперацыйнай, блока інтэнсіўнай тэрапіі, палат выкарыстана сучаснае абсталяванне, навейшыя медыцынскія тэхналогіі і тэхніка. Інтэр’ер цэнтра мацярынства прыемна радуе ўсіх, хто працуе і хто рыхтуецца стаць мамай.

## Глыбоцкі раён

# Хлеб – сапраўдная каштоўнасць

■ Чэслаў Якубовіч

**Людзі старэйшага і сярэдняга пакалення яшчэ не забыліся, як у маленстве іх матулі мясілі цеста, а потым даставалі з печаў праз некаторы час свежавыпечаны духмяны хлеб.**

А вось у Глыбоцкім раёне жыве найболей захавальнікаў спрадвечнага народнага майстэрства. Міністэрства культуры Беларусі з гэтай нагоды нават прысвоіла статус гісторыка-культурнай нематэрыяльнай каштоўнасці дзяржавы ўнікальнай тэхналогіі выпечкі хлеба ў вясковай печы. Ёй цудоўна валодае жыхарка вёскі Дзеркаўшчына Сцепаніда Лупач, якую навучыла добра пячы розныя формы хлеба яе матуля з Брэстчыны па рэцэптах сваіх продкаў. Пазней Сцепаніда Аляксандраўна, калі яе трое дзетак былі малымі, навучылася пячы для іх смачны хлеб з рознымі прысмакамі. Асабліва ўдаецца ў майстрыхі хлеб-“бутэрброд” з запечаным унутры салам. Каравай мясцовай майстрыхі ўпрыгожваў выставу на Дні беларускага пісьменства ў райцэнтры, яе хлябы пабывалі на святой зямлі ў Іерусаліме каля Гроба Гасподняга, асвячаліся і раздаваліся там вернікам. Дарэчы, у беларускай сталіцы статус нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны атрымала і ўнікальная тэхналогія прыгатавання “Маслянага барана” з вёскі Мацюкова Глыбоцкага раёна. З дапамогай звычайнай марлі і ўмелых рук Тэрэса Струй з дачкой Марынай умеюць ляпіць уручную сапраўдны мастацкі твор са звычайнай смятаны – вельмі прыгожых масляных баранчыкаў з рожкамі і густой воўнай.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 21.03.13 | | | | Пятніца 22.03.13 | | | | Субота 23.03.13 | | | | Нядзеля 24.03.13 | | | | Пнд 25.03.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | * | * | * | * | * | | * | * | * | | | | | | * | | | | |
| Тэмпература | -8 | -8 | -4 | -8 | -13 | -13 | -9 | -12 | -16 | -16 | -9 | -14 | -17 | -12 | -4 | -8 | -11 | -10 | -3 |
| Ціск | 746 | 747 | 749 | 752 | 753 | 753 | 754 | 756 | 756 | 755 | 755 | 756 | 756 | 756 | 756 | 757 | 757 | 756 | 756 |
| Вільготнасць | 82 | 84 | 69 | 73 | 78 | 79 | 63 | 65 | 68 | 71 | 64 | 68 | 73 | 80 | 59 | 72 | 72 | 79 | 59 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 3 Пн | 3 Пн | 2 Пн-У | 1 Пн-У | 4 Пн-У | 5 Пн-У | 3 Пн-У | 1 Пн-У | 3 Пн-У | 3 Пн | 1 Пд-З | 4 Пд-З | 2 З | 3 Пн-З | 3 З | 4 Пд-З | 3 З | 5 З |

# Аб самым надзённым

## УСЁ БОЛЬШ ЗАТРАТНЫМ СТАНОВІЦЦА ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ АТРЫМАННЕ ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Дарэчы, беларусы прывыклі да таго, што цэны ў нас на ўсё пастаянна растуць і толькі 3 шчаслівчыкі з кожных 10 студэнтаў вучацца за кошт дзяржавы.Без грошай у нас, якіх у большасці беларусаў мізэр, цяпер няма на што спадзявацца, Пражыць у горадзе ды яшчэ, як правіла, без месца ў студэнцкім інтэрнаце беднаму студэнту з кожным годам становіцца ўсё больш праблематычна…**

Ні ў адной сферы жыцця ў Беларусі не было апошнім часам столькі змен і рэформ, як у галіне адукацыі і навукі. Спачатку мы перайшлі на навучанне дзетак з 6-гадовага ўзросту і на 5-дзённы вучэбны тыдзень, увялі 10-бальную сістэму ацэнкі якасці ведаў навучэнцаў. Пастаянна працавалі над увядзеннем сістэмы дзяржаўных стандартаў адукацыі і адначасова ліквідавалі ў глыбінцы малакамплектныя школы. Дайшлі таксама да выніковай атэстацыі выпускнікоў па выніках цэнтралізаванага тэсціравання. Аднак нязменным заставалася тое, што пастаянна рос кошт атрымання дыпломаў ВНУ і скарачэння колькасці бюджэтных месцаў у айчынных універсітэтах і акадэміях.

А ўсёлетні Год беражлівасці, як і чакалася, яшчэ цяжэй стане абітурыентам атрымаць жаданы студэнцкі білет. Па-першае, ёсць аб’ектыўная прычына зменшыць планы набору студэнтаў ( у гэтым годзе на 1 курс бюджэтнай формы навучання залічаць 23,6 тысячы юнакоў і дзяўчат на дзённае навучанне і яшчэ амаль 7 тысяч чалавек змогуць вучыцца бясплатна ў ВНУ завочна). У Міністэрстве адукацыі РБ такое “абразанне” патлумачылі тым, што ў 2013 годзе сярэднія школы і гімназіі выпусцяць толькі 60 тысяч вучняў 11-х класаў.

У папярэднім навучальным годзе такіх старшакласнікаў было на 4 тысячы болей. Кіраўніцтва краіны таксама занепакоілася ўзроўнем падрыхтоўкі патрэбных кадраў, маладыя спецыялісты нібыта не паспяваюць за працэсамі мадэрнізацыі і пераснашчэння прадпрыемстваў. Студэнтам сельскагаспадарчых ВНУ той жа А. Лукашэнка рэкамендуе палову вучэбнага працэсу праводзіць не ў аўдыторыях, а на вытворчай практыцы на палях і фермах. Такі ж падыход і для будучых педагогаў, медыкаў, каб вучыліся прафесіі ў класах і лячэбных кабінетах, а тэорыя як бы сама па сабе ў век Інтэрнэту. Тады ж не будзе ўцёкаў ад прафесіі пасля адпрацоўкі абавязковага размеркавання, выпадковых спецыялістаў.

А вось каму не пашанцавала сёлета, дык будучым гуманітарыям. Набор на такія спецыяльнасці скарочаны на 12-15 % у сярэднім. Найбольш стане меней эканамістаў, планы прыёму якіх скарацілі на 15-20 %, на 14-15 % ВНУ зменшылі камплектаванне груп па педагагічных спецыяльнасці, на 7-10 % - будучых юрыстаў-прававедаў. Праўда, адначасова па загадзе павялічваюць профільную падрыхтоўку на інжынерныя прафесіі для розных галін прамысловасці. На шчасце, для абітурыентаў і іх бацькоў не сталі мяняць правілы прыёму ў вышэйшыя і сярэднеспецыяльныя навучальныя ўстановы.

З іншага боку тым, хто вучыцца ў школе не вельмі добра, зараз пра вучобу ў ВНУ можа і не марыць. Для гэтага павялічылі ўступны бар’ер мінімальна-прахадных балаў ЦТ для ўдзелу ў конкурсе на паступленне. Нагадаем, што летась такая планка была 7 прахадных балаў па прадмеце і 10 % абітурыентаў адразу адсеяліся. На тэсціраванні сёлета, якое пройдзе з 14 па 28 чэрвеня, у прыёмную камісію прымуць дакументы, калі будзе мінімум 20 балаў па гісторыі Беларусі, грамадазнаўству, сусветнай гісторыі навейшага часу, геаграфіі і замежным мовам.

Слаба падрыхтаваныя вучні, а чакаецца, што іх будзе каля 20 тысяч, адразу адсеюцца і змогуць разлічваць толькі на паступленне ў тэхнікумы і прафтэхвучылішчы. У астатнім усё ідзе па адпрацаванай схеме. На шрагу спецыяльнасцей да 30 красавіка моладзі трэба прайсці абавязковае прафесійна-псіхалагічнае субяседванне ў вызначаных 18 ВНУ. Дакументы на рэгістрацыю на ЦТ паўсюдна будуць прымаць з дапамогай аўтаматызаванай інфармацыйнай сістэмы і без свабоднага валодання камп’ютарам няма куды сунуцца.

Адзінае, што аб’ядноўвае зараз суайчыннікаў і не вельмі іх радуе: чакаецца павышэнне кошту платнага навучання ў ВНУ ў межах 10 %, паколькі павысілася тарыфная стаўка 1-га разраду. Нам яшчэ кажуць, што студэнты кампенсуюць толькі меней 60 % заробкаў выкладчыкаў і на бюджэт кладуцца вялікія нагрузкі па ўтрыманні айчыннай сістэмы вышэйшай адукацыі.

Дарэчы, беларусы пры— выклі да таго, што цэны ў нас на ўсё пастаянна растуць і толькі 3 шчаслівчыкі з кожных 10 студэнтаў вучацца за кошт дзяржавы. Без грошай у нас, якіх у большасці беларусаў мізэр, цяпер няма на што спадзявацца, бо толькі харчаванне за 2 апошнія гады падаражэла ў 3 разы. Пражыць у горадзе ды яшчэ, як правіла, без месца ў студэнцкім інтэрнаце беднаму студэнту з кожным годам становіцца ўсё больш праблематычна…

## Дзень за днём

**Урад і Нацбанк Беларусі атрымалі жорсткія заданні ад кіраўніка краіны любым чынам пратрымацца яшчэ 2-2,5 гады, да наступных выбараў і не дапусціць вялікага росту цэн і чарговай дэвальвацыі рубля. І ў пачатку вясны Беларусь не дасягнула паразумення з Расіяй па паліўным балансе на 2013 год. На мадэрнізацыю 711 самых важных для дзяржавы прадпрыемстваў, па падліках урада РБ, не хапае яшчэ 60 трыльёнаў рублёў. У Беларусі скарацілі да 30,5 тысяч колькасць бюджэтных месц у ВНУ, а для бацькоў у 1,5 раза вырасла плата за харчаванне дзяцей у дзіцячых садках. З красавіка яшчэ на 8 % павялічыцца, магчыма, плата за навучанне ў айчынных ВНУпасля праверкі абгрунтаванасці такога павышэння.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Вучоныммедыкам у другі раз у гісторыі ўдалося вылечыць ВІЧ-інфекцыю ў 2-гадовага дзіця са штата Місісіпі, першаму хвораму зрабілі перасадку коснага мозгу.

**Італія.** Вынікі парламенцкіх выбараў выклікалі новы палітычны крызіс у краіне, ні адна партыя не набрала большасці, сітуацыя стала малакіруемай на фоне эканамічных праблем.

**Балгарыя.** Абураныя ростам тарыфаў на энерганосьбіты, людзі хваляй акцый пратэсту дабіліся не толькі адстаўкі ўрада краіны, але і датэрміновых парламенцкіх выбараў 12 мая.

**Кітай.** Міжнародныя рэзервы краіны дасягнулі 3,3 трлн. USD і перавысілі такім чынам колькасць залатога запасу ўсяго чалавецтва, у лідарах тут Японія, Саудаўская Аравія і РФ.

**Расія.** Трывожным сігналам для Крамля стаў рост недаверу народа да ўлады, ужо 40 % апытаных сацыёлагамі расіян лічаць "Адзіную Расію" партыяй "жулікаў і злодзеяў".

**Польшча.** З новага бюджэта ЕС на 2014-2020 гады краіне выдзеліліна мадэрнізацыю і рэформы 105,8 мільярдаў еўра, з іх 28,5 мільярдаў – на развіццё польскай сельскай гаспадаркі.

**Украіна.** Кампанія "Укртрансгаз" дамовілася аб пастаўках праз Венгрыю газу сёлета ў аб'ёме 7 млрд. кубаметраў і мае магчымасць поўнасцю забяспечыць палівам з Еўропы.

**Іран.** З-за эканамічных санкцый іранская нацвалюта аслабела на 60 %, у абарачэнне ўвялі купюры вартасцю 200 тысяч рыалаў, на чарзе і грошы наміналам 0,5 мільёна.

**Казахстан.** Урад краіны вырашыў пабудаваць ля горада Актау Мангістаўскай вобласці першую атамную станцыю, за савецкім часам там ужо былі ядзерныя аб'екты.

**Таджыкістан.** Краіна стала 159-м членам Сусветнай гандлёвай арганізацыі, на чарзе -прыём у СГА казахаў, перспектывы ўступлення Беларусі яшчэ вельмі туманныя.

**Польшча.** Палякаў пацешыў факт падпісання дамовы аб супрацоўніцтве з РГА "Белая Русь" іх маргінальнай партыі "Самаабарона", якая на апошніх выбарах набрала 0,07 %.

**Украіна.** Экс-прэзідэнт В. Юшчанка заявіў, што Украіне і яшчэ больш Беларусі патрэбна не ізаляцыя, а магчымасць легалізацыі сваёй палітыкі ў Еўропе, бо інакш растуць страты.

**Саудаўская Аравія.** У выніку аварыі атракцыёна ў адным з луна-паркаў забаў сталіцы Эр-Рыяда выпалі з крэсел на вышыні 12 дзяцей ва ўзросце 9-12 гадоў і скалечыліся.

**Японія.** Да 115 года нараджэння жыхарцы дома прэстарэлых у Осака Місао Окава Кніга рэкордаў Гінеса прыслала сертыфікат аб прызнанні яе старэйшай жыхаркай Зямлі.

**ААЭ.** У сталіцы краіны Дубаі адкрылі самы высокі ў свеце гатэль Марыёт на 1608 нумароў у выглядзе дзвюх 72-павярховых веж па 355 метраў, падобных на пальмы.

# Віцебская вобласць можа стаць лідарам у выкарыстанні мясцовых і альтэрнатыўных крыніц энергіі



**Віцебская вобласць можа выйсці на перадавыя пазіцыі ў рэспубліцы па выкарыстанні мясцовых і альтэрнатыўных крыніц энергіі. Такі пункт гледжання выказаў сёння падчас прыёму грамадзян памочнік Прэзідэнта Беларусі – галоўны інспектар па Віцебскай вобласці Мікалай Дамашкевіч, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Памочнік Прэзідэнта адзначыў эфектыўную работу ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі вобласці па выкарыстанні мясцовых відаў паліва, а таксама паведаміў, што прыватная кампанія зацікаўленая ў будаўніцтве біяэнергетычнай устаноўкі ў Віцебскім раёне. Інвестар гатовы ўкласці ў праект каля $400 млн. Аднак для рэалізацыі неабходна вылучыць 12 тыс.га земляў пад траву і кукурузу, бо біягаз будзе выпрацоўвацца з арганічных адыходаў жывёлагадоўлі і сілаcа. Па словах Мікалая Дамашкевіча, падобны праект ужо паспяхова рэалізуецца ў Мінскім раёне і прыносіць прыбытак у памеры 1,5 млн. еўра.

Старшыня Віцебскага райвыканкама Руслан Фурашоў даклаў памочніку Прэзідэнта, што ў наш час з інвестарам вядзецца дэталёвая распрацоўка праекта.

Па дадзеных ўпраўлення ЖКГ Віцебскага аблвыканкама, у 2013 годзе каля Br149 млрд. будзе накіравана на энергазахаванне. Сродкі інвестуюць у перавод 11 кацельняў на выкарыстанне мясцовых відаў паліва з механізаванай загрузкай, што дазволіць скараціць на працягу года спажыванне прыроднага газу на 14 млн. куб.м, павялічыць частку выкарыстання МВП у паліўным балансе з 55% на канец 2012 года да 67,8% да канца 2013-га. У сістэме аграпрамысловага комплексу на частку МВП у 2013 годзе прыйдзецца 28% ад агульнага паліўнага балансу. У цэлым па вобласці не меней пятай часткі ў кацельна-пячным паліве складуць МВП.

*Дыяна Курыла - БЕЛТА*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па дадзеных Белстата, толькі ў студзені адмоўнае сальда знешняга гандлю ўжо стала 150 мільёнаў долараў, яшчэ 350 мільёнаў долараў прыйшлося заплаціць бюджэту РФ за нафту.

**Брэст.** Толькі напрыканцы зімы ў Адкрытым акцыянерным таварыстве "Дываны Брэста" выйшлі на загрузку абсталявання 80 %, але заробкі мізерныя і не хапае каля 100 рабочых.

**Мінск.** Пацярпелым ад выбуху ў доме на вуліцы Пляханава выдалі дапамогу ў памеры толькі па 900 тысяч рублёў, у пакінутае жыллё жыхароў пад'езда вернуць да мая.

**Бабруйск.** Пасля перайменавання гідролізнага завода ў завод біятэхналогій тут першымі Беларусі запусцілі ўстаноўку па атрыманні паліва з адпрацаваных вод пасля іх ачысткі.

**Мазыр.** У рэанімацыю гарбальніцы № 1 даставілі чатырох работнікаў калгаснай фермы з пасёлка Крынічны, якія атруціліся, калі выпілі настойку для лячэння кароў.

**Жлобін.** На ўскрайку горада мясцовы БМЗ пачаў узводзіць свой новы завод з сучасным пракатным станам магутнасцю да 700 тысяч тон металу ў год на плошчы 12 гектараў.

**Мінск.** А. Лукашэнка павялічыў з 4 да 5 колькасць намеснікаў міністра ўнутраных спраў РБ, але ліквідаваў УУС на транспарце, у МУС некамплект штату 6 тысяч чалавек.

**Навагрудак.** На ўзвышшах у раёне прыватная фірма да 2014 года пабудуе яшчэ 2 ветраэнергетычныя ўстаноўкі магутнасцю па 1,2 МВт, сёлета 2 запусцяць ля Смаргоні.

**Мінск.** Беларускае тэлебачанне ў антыамерыканскім сюжэце праграмы "Вакол планеты" абразіла недарэчна С. Лаўрова, назвала яго "министром иностранных дел России".

**Гомель.** Позна вечарам двое 21-гадовых беспрацоўных хлопцаў у марлевых павязках абрабавалі прыватны магазін, аднак іх па слядах знайшла і затрымала сабака міліцыі.

**Мінск.** На з'ездзе ў красавіку Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі зноў плануе вылучыць кандыдатам у прэзідэнты кіна Жырыноўскага, свайго лідара С. Гайдукевіча.

**Вілейка.** Пад раніцу стары халадзільнік выклікаў пажар у доме 68-гадовай пенсіянеркі з вёскі Порса, жанчына засталася без даху, моцна былі пашкоджаны сцены памяшкання.

**Брэст.** Рэктарат мясцовага дзяржтэхуніверсітэта ўвёў у інтэрнатах рэжым жорсткай эканоміі святла, студэнтам забаранілі карыстацца электрачайнікамі, прынтарамі.

**Магілёў.** Пры спробе вывезці на сваім аўто чатырох непрацуючых дзяўчат для занятку прастытуцыяй міліцыя затрымала 36-гадовага непрацуючага з Санкт-Пецярбурга.

**Мінск.** Да сярэдзіны лета сталічны "Кінавідэапракат" завершыць пераабсталяванне апошніх 10 з існуючых 23 залаў кінатэатраў на лічбавую тэхналогію паказу замест плёнкі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Ва ўсіх гарадах і 13 сельскіх раёнах вобласці, як адзначалася ў аблвыканкаме, вырасла да 77 колькасць стратных прадпрыемстваў, з іх - 10 прадпрыемстваў мяса і малочныя заводы.

**Ушачы.** Калгасы раёна па надоях малака сталі горшымі ў вобласці і апусціліся на 116-е месца ў Беларусі, таксама дрэнная сітуацыя на фермах Браслаўскага, Пастаўскага і яшчэ 12 раёнаў.

**Чашнікі.** На папяровай фабрыцы "Чырвоная зорка" нарэшце пачалі капітальны рамонт машыны па выпуску паперы, адна з іх 1886 года выпуску дагэтуль тут працуе ў цэху.

**Наваполацк.** З-за грубых памылак, дапушчаных у ходзе праектавання рэканструкцыі гарадской лазні № 1, адклалі здачу патрэбнага людзям аб'екта ў эксплуатацыю.

**Лынтупы.** Мясцовы спіртзавод заваяваў сярэбраны медаль і дыплом II ступені за высокую якасць свайго элітнага спірта "Люкс" на Міжнародным конкурсе ў Маскве.

**Віцебск.** Аблсельгасхарч давёў задачу калгасам вобласці намалаціць сёлета 2 мільёна тон зерня бункернай вагі, аднак мінеральных угнаенняў было толькі 29 % ад патрэбнасці.

**Глыбокае.** Да вішнёвага фестывалю ў райцэнтры запланавалі пасадзіць новы сад на плошчы каля 2-х гектараў з саджанцамі з усяго свету, у тым ліку і японскай сакуры.

**Браслаў.** Двое настаўніц мясцовай гімназіі ўдзельнічалі ў Рызе ў рабоце І-й Балтыйскай педагагічнай канферэнцыі па пытаннях асветы ў інтарэсах устойлівага развіцця.

**Чашнікі.** Раённы суд пакараў 10 мільёнамі рублёў штрафу жыхара Новалукомля за незаконную лоўлю рыбы сеткамі на канале Лукомльскай ГРЭС і забраў яго "Аўдзі" да выплаты сумы.

**Віцебск.** Аблвыканкам папярэдзіў 17 грамадзян, што з іх па суду будуць спагнаны выдаткі на разгляд іх пастаянных неабгрунтаваных ілжывых скарг, за год іх паступіла больш 200.

**Полацк.** Псіхічна хворы 40-гадовы жыхар горада патэлефанаваў аб быццам замініраванні абласной псіхіятрычнай бальніцы, яго ж туды прымусова неўзабаве міліцыя даставіла.

**Шаркаўшчына.** У доме рамёстваў райцэнтра адкрылі ўнікальную выставу "Кветкі сярод зімы", вышытых лентамі букетаў настаўніцы СШ №1 Таццяны Бука і яе вучняў.

**Орша.** У цяжкім стане даставілі ў рэанімацыю гарбальніцы пенсіянерку, якая забылася пра ўключаны кіпяцільнік і ўстроіла пажар у сваёй кватэры, жанчыну выратаваў сусед.

**Віцебск.** Пацыентаў абласнога скура-венералагічнага дыспансера стануць лячыць рыбкамі "гарра руфа", для якіх пачалі рыхтаваць спецыяльны 200-літровы акварыўм.

**Наваполацк.** Новы галоўны трэнер футбольнага клуба "Нафтан" Павел Кучараў заявіў, што ў горада ёсць усё, каб стварыць моцны футбольны клуб, змагацца за медалі і гуляць у еўракубках.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

Ул. Скрабатун

# Глыбокае. Прайшло 50 гадоў. Ізноў малы ледавіковы перыяд?

**Кожны, хто мае лічбавы фотаапарат, ведае: здымак захоўвае такія параметры як дзень і час фотаздымкі. Колькі не пераглядаў свае ж здымкі, якія зробленыя падчас паводкі на рацэ Беразвіцы ў Глыбокім – раён маста на вул. Вольнай – штогод, з зайздроснай пастаяннасцю, чытаю адны й тыя даты: 21.03, 22.03, 23.03, 24.03. Самы пік!**

Пасля 25 сакавіка паводка яшчэ ёсць, але яна ўжо ідзе на спад. Калі казаць пра рыбалку, то на лёд без гумовых ботаў – не ўзысці, берагі падтаялі. На возеры Кагальнае – мноства чаек у палонцы. На 25 сакавіка, дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, як памятаецца,– чыста! Ну, хіба што ў дварах яшчэ заставаліся невялікія снежныя плямы ад гурбаў.

Я паглядзеў прагноз надвор'я на цэлы наступны тыдзень... Далей – толькі горш! 20-градусныя марозы ўначы! Ніякага аптымізму.

Сустрэў у мінулую нядзелю суседа Віталя Мацкевіча, які адбіваў ледзяшы са сцежкі – хоць і мароз, але ж ўдзень капае са страхі.

– Во прыціснула зіма, не хоча сыходзіць,– кажу.

– Ты, Валодзя, у 1962-м, напэўна, пешкі пад стол хадзіў, малы быў!– кажа сусед. А мне ж ўчора 75 стукнула!

– Ну, малы, не малы, хадзіў ці не хадзіў пад стол, але ў гэтым годзе пайшоў у першы клас!– пярэчу суседу. Ну, дык што было ў 1962-м?

*– Як цяпер памятаю: 16 сакавіка 1962 года такая ж завея была! А ў гэты дзень – выбары! Гэта цяпер: хочаш - ідзі, хочаш - не ідзі, ніякага пакарання табе не будзе! А тады ўсе былі абавязаныя даць яўку 99,99% і прагаласаваць за таго, які быў адзін у бюлетэні – 99,99%. А тыя 0,01%, якіх не хапала, лічылася, што 0,01% – асуджаныя і сядзяць у вязніцах і права голасу не маюць.*

*Я ж тады ў Турках жыў, каля Докшыцаў,– працягвае далей сусед. Як прагаласаваць? А ехаць трэба было ў Шуневічы на месце прапіскі. Замяло, ніхто не чысціць. Ды і тэхнікі тады не было, як сёння. Аўтобусы не ходзяць ні на Глыбокае, ні на Докшыцы, ні на Маладзечна, ні на Мінск! Людзей звозілі галасаваць на трактарах і на санях.*

*Даехаў я толькі да Докшыцаў спадарожным лесавозам. Там, дзе рэчка Бярэзіна, як перамяло! Лесавоз захрас. Усё! На выбары я не патрапіў. Потым лесавоз выцягнула з заносу вайсковая машына...*

*А зіма 1963 года, наогул, скончылася не ў лютым і не ў сакавіку - да самага чэрвеня таяла. Лета было сцюдзёным, усё яго так і праходзілі не здымаючы фуфайкі. Неўраджай!*

Я і сам пачаў згадваць. Так! Было ж у 1960-я гг, што снег на адхонах дарог, у канавах ляжаў яшчэ на 9 траўня. А потым нешта рэзка змянілася. Памятаю 1 красавіка 1978 года. У Глыбокім – летняя цеплыня. Чаму запомнілася. Якраз тады, пасля сканчання навучальнай установы, па «ўсесаюзным» размеркаванні збіраўся ехаць на працу ў Латвію.

Мы ўжо неяк і прызвычаіліся за гэтыя тры дзесяцігоддзі, што войлачная вішня ў Глыбокім можа заквітнець адразу пасля 25 красавіка, што на 9 траўня з'яўляецца лістота на ліпах і бярозах. І забыліся, а шмат хто з маладога пакалення і не ведае, што так было і не заўсёды. З перыядычнасцю раз на паўстагоддзя бывае ў нас і малы ледавіковы перыяд.

Сыноптыкі прагназуюць маразы да канца сакавіка. А што потым? Рэзкае пацяпленне? Паплывём усім Глыбокім!



Наступствы ўрагана Хаўер.



## Адкрытае пісьмо прадпрымальніку Я.Я.Барысаву

Увогуле я чалавек стрыманы, то бок, тыповы "памяркоўны беларус", пазбягаю канфліктных сітуацый. Але ўсяму ёсць мяжа.

Задумаў упрыгожыць сваё жыллё нацяжной столлю. Знаходжу ў газеце рэкламу. Працытую даслоўна: **"Натяжные потолки ИП Борисов Е.Е. УНП 390487675 ALTEZA – широкий выбор цветов, гарантия 10 лет, быстрая установка".** Пазначаны тэлефоны. Самае тое, што яшчэ трэба! Але, як высветлілася, не ўсё адпавядае рэчаіснасці. Адразу пасля іх працы заўважыў брак. Патэлефанаваў. Абяцалі ў хуткім часе выправіць. Праходзіць час, а майстраў няма. Тэлефаную зноў, і зноў абяцанкі. Так праходзяць тыдні, месяцы. Распытаў у знаёмых наконт маёй бяды. Высвятляецца, што тых пакрыўджаных бедалаг у спадара Барысава Я.Я. шмат і ўсім абяцае.

З гэтай нагоды прашу паважаную рэдакцыю апублікаваць адкрыты ліст у камісію па абароне правоў спажыўца і падатковую інспекцыю.

*У камісію па абароне спажыўца Глыбоцкага райвыканкама Кірзяёнка Альбіна Альбінавіча, праж. па вул. Энергетыкаў, дом 10, тт.: 2-72-71, 295-46-52*

**Заява**

Прашу разабрацца і прыняць меры ўздзеяння да прыватнага прадпрымальніка Яўгена Яўгенавіча Барысава, які дапускае брак у выкананні працы і не ліквідуе непаладкі.

*11 сакавіка 2013г* *(подпіс)* *А.А.Кірзяёнак*

Ю. А. Рацьковіч, дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе

## Ашчаднасць – заклад поспеху

Указам Прэзідэнта РБ ад 29 лістапада 2012 года № 537 2013 год абвешчаны Годам ашчаднасці, прынята пастанова Савета Міністраў РБ ад 29 снежня 2012 года № 1253 «Аб зацвярджэнні рэспубліканскага плану мерапрыемстваў па правядзенні ў 2013 годзе Года ашчаднасці».

У святле ўказу часткі дзяржавы і пастановы СМ РБ пытанне пра рацыянальнае і эфектыўнае выкарыстанне цеплавой энергіі, яе размеркаванне і ўлік, у наш час устае больш востра. Недахоп уласных паліўна-энергетычных рэсурсаў і патрэба імпартаваць паліва з суседніх краін, патрабуе ад нас эканомнага выкарыстання цеплавой энергіі.

Пры абследаванні прадпрыемстваў і арганізацый, якія вырабляюць і спажываюць цеплавую энергію, інспектарамі цеплагрупы энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА, нярэдка назіраецца марнатраўнае і нерацыянальнае выкарыстанне цеплавой энергіі, што выяўляецца ва ўцечцы цепланосьбіта, адсутнасць цеплавой ізаляцыі цеплаправодаў, ці яе нездавальняльны стан, адсутнасць аўтаматычных рэгулятараў тэмпературы і прыбораў уліку спажыванай цеплавой энергіі. Часам нядбайныя працаўнікі забываюць аднавіць цеплавую ізаляцыю трубаправодаў пасля правядзення рамонтных прац.

У наш час ужо неабходна падумаць пра планы замены ўчасткаў цеплавых сетак у межацяпляльны перыяд. Сюды трэба аднесці трубаправоды з мінулым тэрмінам нарматыўнай эксплуатацыі, якія з'яўляюцца крыніцай звышнарматыўнага выдатку цеплавой энергіі з-за ўцечак цепланосьбіта і зносу цеплавой ізаляцыі, якая не забяспечвае свайго прызначэння. Ненадзейную і тую, якая адслужыла свой тэрмін цеплавую сетку, лягчэй замяніць у летні перыяд, чым потым у ацяпляльны сезон займацца ўхіленнем прарываў, што прыводзіць да ўцечкі цепланосьбіта і вялікіх выдаткаў на земляныя працы ў зімовых умовах.

Яшчэ адзін кірунак працы ў сістэмах цеплазабеспячэння, якое можа прывесці да эканоміі цеплавой энергіі, з'яўляецца наладка і рэгулёўка гэтых сістэм. На жаль, у некаторых месцах адчуваецца недапрацоўка, што прыводзіць да разбалансіроўкі сістэм. У выніку: адны аб'екты недаграваюцца, паступаюць абгрунтаваныя скаргі з боку спажыўцоў цеплавой энергіі, а іншыя змушаны адкрываць фортачкі ці ўзмацняць вентыляцыю памяшканняў для выдалення лішняга цяпла. Нічога іншага не застаецца, як паднімаць тэмпературу цепланосьбіта, каб зняць скаргі на якасць ацяплення, а гэта непазбежна цягне за сабой перавыдатак паліўных рэсурсаў.

На падставе вышэйпададзенага можна зрабіць высноЎ, што магчымасць эканоміі і ашчаднасці ёсць, нават без вялікіх капіталаўкладанняў.

А.І. Гігола, *начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

## Крадзяжы з аўтамабіляў – адзін з распаўсюджаных відаў злачынстваў

**Калі спытаць любога аўтааматара, чаго ён баіцца больш за ўсё, тоён, хутчэй, адкажа: дрэнных дарог і аўтамабільных крадзяжоў. І не варта здзіўляцца. На сённяшні дзень крадзяжы з аўтамабіляў – адзін з распаўсюджаных відаў злачынстваў. Прычыны такой чорнай папулярнасці простыя: адносная лёгкасць пранікнення ў аўтамабіль нават пры наяўнасці сігналізацыі, хуткасць здзяйснення злачынства, вялікі дыяпазон збыту выкрадзенага.**

У 2012 годзе на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана два ўгоны транспартных сродкаў: *У ноч на 20.02.2012 г са стаянкі ў двары дома №4 па вул. Палескай у г.п. Падсвілле здзейснены ўгон без мэты крадзяжу аўтамабіля, які належыў жыхару г.п.Падсвілле. 09.02.2012 каля $21^{00}$ са стаянкі побач адміністрацыйнага будынка ГЛХУ «Глыбоцкі доследны лясгас» здзейснены ўгон аўтамабіля УАЗ. У дадзеных выпадках злачынцы ўсталяваныя і прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці.*

Вось некалькі парадаў, якія варта ўзяць на ўзбраенне, каб папярэдзіць злачынныя замахі.

Ніколі не пакідайце ключ у замку запальвання, нават калі вы знаходзіцеся «ў двух кроках» ад машыны. Не даверайце ключы ад машыны малазнаёмым людзям, якія могуць зрабіць з іх копію. Па магчымасці пазбягайце паркавацца на працяглы час у неасветленых і бязлюдных месцах. Таксама будзьце асцярожныя і пры паркоўцы ля культурных цэнтраў, паркаў адпачынку і гэтак далей. Дакументы, асабістыя рэчы, сумкі, пакеты ніколі не пакідайце ў салоне аўтамабіля. Калі вы сыходзіце – бярыце ўсё з сабой ці прыбірайце ў багажнік. Не выкарыстоўвайце бардачок аўтамабіля для захоўвання дакументаў, а захоўвайце дакументы пры сабе. Калі вас спыняюць незнаёмыя людзі, ніколі не выключайце запальванне і не адкрывайце дзвярэй. Усе пытанні цалкам можна вырашыць праз прыспушчанае шкло. Не губляйце пільнасці, нават калі вы змушаны спыніцца на час дробнага рамонту, напрыклад, замены кола. Не пакідайце адкрытымі фортачкі ў сваім аўтамабілі. Гэта правіла асабліва актуальнае ў разгар летняга сезону, калі падчас язды кіроўца адкрывае вокны, а потым, выходзячы з машыны, забывае іх зачыніць. Праверце лішні раз перад тым, як пайсці дахаты, на працу ці адпачываць – ці добра зачынены ўсе дзверы вашага аўта.

# У 1914 годзе ў Беразвеччы было паштовае аддзяленне?

■ Ул. Скрабатун

**У гісторыі Глыбокага ёсць шмат таямніц. Іх было б менш, каб былі пад рукою розныя дакументы. Але іх няма. Трэба самому рабіць даследаванні.**

Не думаў і не гадаў, што з'явіцца яшчэ адна таямніца. У інтэрнеце вывудзіў відарыс адраснага боку адной з паштовак. Паштоўка з пісьмовым паведамленнем (на польскай мове) за ліпень 1914 года. Адпраўлена яна, нібыта, з Паставаў 20.07.1914, бо ўверсе дробнымі літарамі прыпісана – Witold. Postawy. А побач паштовы штэмпель – «**БЕРЕЗВЕЧЬ. 22.7.14**». Гэта значыць – «Беразвечча. 22.7.14». Канечны пункт – г. **ПОНЕВѢЖЪ** (цяпер – г. Панявежыс Літоўскай Рэспублікі). Адрас добра чытаецца: «гор. ПОНЕВѢЖЪ. Пески. Дом Свитковскаго. Ад. Кучинскій.» І паштовы штэмпель на марцы – «**ПОНЕВѢЖЪ**». Дзіўна, што марка пагашаная не ў месцы адпраўлення, а ў месцы прыбыцця. Можа тады быў такі парадак? Яшчэ дзіўней, што пісьмовае паведамленне не пайшло напрост з Паставаў у Панявеж, а прывандравала ў «Березвечь»! Чаму? З Паставаў жа бліжэй да Панявежа і чыгунка тады ўжо існавала. Перашкодзіла Першая сусветная вайна? Але яна пачалася 28.07.1914. Не! Тое, што стаіць штэмпель «**БЕРЕЗВЕЧЬ»,** яшчэ не факт, што ў Беразвеччы было паштовае аддзяленне. Меркавана было б убачыць штэмпель «Глубокое», і пошта свая ў Глыбокім тады ўжо была. Аднак стаіць штэмпель «Березвечь»! Я нават дапускаю думку, што той Вітольд мог і ў Глыбокім апусціць паштоўку ў скрынку.

Але, чаму «Березвечь»? Адзіная ўцямная думка, што прыходзіць у галаву: чыгуначная станцыя, што існавала ў тыя часы ў Глыбокім, называлася – «Березвечь».

Я хачу падкрэсліць, каб не заблытаць нашых чытачоў, што колішняе мястэчка Беразвеч (Беразвечча) і сённяшні глыбоцкі мікрараён Беразвечча, ніякага дачынення да нашай тэмы не мае! Чыгуначная станцыя – і тады і сёння – стаяла і стаць там, дзе й сёння. Толькі ў дарэвалюцыйныя часы яна называлася «Березвечь», а не «Глубокое». За «польскім часам» яна сталася называцца «Глыбокае».

Магчыма тут быў нейкі сартыровачны пункт, дзе фарміравалася пошта віленскага накірунку? Сюды і прывозілі пошту з розных куткоў – з Дзісны, Докшыцаў, Паставаў і самога Глыбокага? І ставілі штэмпель «Березвечь»? Аднак, гэта – толькі версія.

На гэтым можна было б і скончыць... Аднак, прыгадалася, што Кастусь Шыталь, малады краязнаўца, аўтар шматлікіх матэрыялаў у нашай газеце, у школьныя гады (вучань Крулеўшчынскай СШ) прачытаў на краязнаўчай канферэнцыі ў Глыбокім вельмі грунтоўны матэрыял пра будаўніцтва чыгунак у нашым краі, чым вельмі ўразіў журы. Не кожны студэнт гістфака здольны на такое, а тут вучань сельскай школы! Таму і рашыў падзяліцца з ім сваімі высновамі.

– Вашыя высновы абсалютна супадаюць з маімі,– кажа Кастусь. Гэта – штэмпель паштовага вагона «**БЕРЕЗВЕЧЬ-ПОНЕВѢЖЪ»,** бо побач, ледзьве чытэльна, бачна частка слова – **Пон**..., гэта зн. «**ПОНЕВѢЖЪ»**.

Аказваецца, гэтая тэма ўжо даўно даследаваная расійскімі і літоўскімі гісторыкамі і краязнаўцамі. Чытаем:

«Развіццё чыгуначнай пошты запатрабавала заснавання новых пасадаў — раз'язных службоўцаў для суправаджэння карэспандэнцыі ў паштовых вагонах і раз'язных паштароў, якія былі прыпісаны да Упраўлення перавозкі пошт па чыгунках. Паштовыя вагоны належылі быць ва ўсіх пасажырскіх цягніках, таму іх таксама звалі паштовымі, і на кожнай станцыі ажыццяўляўся паштовы абмен. Паштовая карэспандэнцыя перавозілася таксама хуткімі і кур'ерскімі цягнікамі, пры гэтым багажныя вагоны гэтых саставаў былі забяспечаныя паштовымі скрынямі. (...)

Міністэрства ўнутраных спраў прапанавала ўвесці бясплатную перавозку пошты па ўсіх чыгунках, уключаючы і «прыналежныя прыватным кампаніям, каб не абцяжарваць дзяржаўную казну разлікамі».

Чыгунка абавязана ў кожным пастаянным цягніку, які перавозіць пасажыраў, даваць бясплатна асобныя памяшканні ў пасажырскім вагоне да трох сажань па даўжыні яго для перавозкі пошты і чыноў, якія суправаджаюць яе...»

Штодня хадзіў цягнік з Новых Свянцянаў у Глыбокае (ст. Беразвеч), а па панядзелках і чацверах быў дадатковы з Новых Свянцянаў да Варапаева.

## Крыху гісторыі.

Умовы збудавання і эксплуатацыі Свянцянска-Беразвецкай дарогі былі зацверджаныя ў чэрвені 1894 г. Пад яе збудаванне ў 1895 г. была рэалізаваная аблігацыйная пазыка на суму 1252 млн. рублёў, але яна не гарантавалася, то да 1903 г. непагашанай заставалася амаль уся сума.

Лінія Новасвянцяны-Лынтупы-Паставы адкрыта 11 лістапада 1895 г., дабудавана да Беразвечча ў 1897 г.

Дарога ўвайшла ў групу Свянцянскіх чыгунак Першага таварыства пад'язных шляхоў. Участкі Свянцяны-Паставы і Паставы-Беразвеч рыхтаваліся з улікам іх працягу да Рыгі і Оршы і павінны былі садзейнічаць развіццю ў гэтай мясцовасці гандлю, у тым ліку вывазу лесу, дроў, спірту і гусей.

Але ўрад не ўхваліў працягу ні ў той, ні ў іншы бок, і дарога ўвесь час знаходзілася ў стратце. Адзіным прыбытковым стаў 1904-ы, які прынёс упраўленню Першага таварыства па гэтай лініі прыбытак у 16 рублёў. Таму ў 1907 г. была ўнесена прапанова: для рашэння праблемы стратнасці трасы далучыць яе або да Прывіслінскіх, або да Лібава-Роменскай, або да Пецярбургска-Варшаўскай чыгунак. Сярод акцыянераў нават узнімалася пытанне пра разбор лініі. Праўда, ніводная з гэтых прапаноў не была рэалізаваная. У першым выпадку казна не хацела абцяжарваць сябе ўтрыманнем вузкакалейнай чыгункі, да таго ж стратнай і не прыдатнай для перакідвання войскаў. Акцыянеры не рызыкнулі ліквідаваць лінію, бо працягвалі спадзявацца, што атрымаюць ад ўрада дазвол на яе працяг. Часопіс «Железнодорожное дело» ў 1907 г. пісаў: «Лепшая ўрадавая дапамога мясцовым дарогам – гэта садзейнічанне па пытанні пра працяг заходняй сеткі да Рыгі і Оршы з шырокім ужываннем да яе найвысока зацверджанага 10 чэрвеня 1905 г.» «Палажэнне пра меры па прыцягненні капіталаў у справу чыгуначнага будаўніцтва ў Расіі».

У 1915-16 гг., падчас Першай Сусветнай вайны, «шыротны» ход ад Глыбокага да Паставаў ці да Варапаева (так на польскай карце 1922 г.) быў перашыты на шырокую каляіну. У 1915 г. для забеспячэння нарачанскага ўчастку фронту немцы пабудавалі ваенна-палявую ВЧД ад Лынтуп да Кабыльніка (з 1964 г – г.п. Нарач) з каляінай 600 мм. Ад Кабыльніка дарога, магчыма, працягвалася на поўнач да Гадуцішак. Дэпо на адно стойла было пабудавана на ст. Лынтупы. У 1916-17 гг. пракладзены шырокакалейныя (1435 мм) участкі Пабраде-Лынтупы, Глыбокае-Круляўшчызна і Пескарышкі-Канстанцінаў-Шэметава [Шэмятаўшчына] са станцыямі Януковічы [Патрэбічы] і Нарэйшы. У выніку Лынтупах утварыўся маленькі чыгуначны вузел з каляінамі 600, 750 і 1435 мм.

Пасля вайны ўчасткі Пескарышкі-Шэметава і Лынтупы-Кабыльнік былі разабраныя. У 1922-23 гг., пасля перашыўкі палякамі на шырокую каляіну ўчастка Лынтупы-Паставы, было вырашана аднавіць лінію да Кабыльніка і падоўжыць ВЧД да воз. Нарач (станцыя Купа, з 1945 г. – Нарач), але ўжо з каляінай 750 мм.

Лінія ад Лынтуп да Нарачы зачыненая ў 1959-60 гг., ад Швянчоніса (Свянцянаў) да Швянчонеляя (Новыя Свянцяны) – у 1972 гг., да Лынтуп – у 1967-68 гг.

Да зачынення лынтупскай лініі па ёй курсаваў адзін штодзённы грузапасажырскі цягнік нумар 963/964 Швянчонеляй-Лынтупы.

На шчасце, колішняя чыгунка Свянцяны (цяпер – Швянчоніс)-Беразвеч перажыла ўсе віхуры войнаў і рэвалюцый і не была разабраная. Дзякуючы ёй наш горад стаўся буйным індустрыяльным цэнтрам Віцебскай вобласці. У мінулым годзе ў чыгункі быў юбілей – 115 гадоў.


ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО. – CARTE POSTALE.

гор. Поневѣжъ

Пески

Дом Свитковскаго

Ад. Кучинскій






Паштовая марка часоў СССР, якая прысвечаная гісторыі айчыннай пошты XIX ст. «Паштовыя вагоны XIX ст».





Малюнкі штэмпеляў паштовых вагонаў у часы Расійскай імперыі. Справа – штэмпель паштовага вагона «Полацк-Балагое».

